Валянціна Аколава



# За тым лугам зеляненькім

лірыка

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ
ЛІТАРАТУРА»
1987

## *Мазуршчыне* [1]

Мы вырастаем з вёсак — як з сукенак.
Ступаем асцярожна на асфальт.
І пад размовы гучныя суседак
Дарослымі вяртаемся назад.

Вось весніцы знаёмыя, вароты...
Старая груша-дзічка пад акном.
І маміны адвечныя турботы.
І бацькаў, у абдымках сонца, дом.

І сцежка, што ў траве бяжыць да Случы.
І песня, што выходзіць з берагоў.
І памяць, што з мінулым не разлучыць,
А ў сэрцы зноў распальвае агонь.

І тое, без чаго ні дня, ні ночы —
Здзіўлення светам — не магу пражыць.
І разбірае час дзяцінства почырк.
І па прыступках вёснаў век бяжыць...

---

[1] Вёска ў Салігорскім раёне Мінскай вобласці.

## *Чарніцы*

**Паводле народнага**

Пад сасною смольнаю ягада расла,
чорная расла.
Гадавала доню, ой, мацерка-раса,
белая раса.
На паляну раніца прыбягала спаць,
стомленая спаць.
Маладыя парасткі промнямі блішчаць,
светлымі блішчаць.
Не сарві зялёную ягаду ў бары,
у густым бары.
Хай яна даспеліцца на Іван-зары,
маладой зары.
Хай і кветка-папараць зацвіце хутчэй,
зацвіце ярчэй.
Сокам хмельным вусны смела апячэ,
ой, ды апячэ...
Па сцяжыне-верасе дзеўчына ішла,
красная ішла,
У расе даспелую ягаду знайшла,
раніцай знайшла.
Ой, мая чарнічанька, не збягай з вачэй,
ласкавых вачэй.
— Дзе ты, мой каханенькі, падыдзі хутчэй,
да мяне хутчэй.
Прывітаем сэрцамі наш купальскі дзень,
нарачоны дзень.
Сядзем адпачыці ў чабаровы цень,
у зялёны цень.
Пад сасною смольнаю ягада расла,
чорная расла.
Шчасце тут шукала, ой, дзеўчына-краса,
русая каса.

## *Бабуліна навука*

1

Я помню твар бабулі... цень маршчын
Каля вачэй, прасвечаных, як зоркі.
Размовы галаслівыя жанчын.
І позіркі франтавікоў-мужчын.
І слёзны дым ад бацькавай махоркі.

2

Паўтарае памяць асцярожна словы:
— Не хадзі да Случы
прыцемкам вясковым.
Там жыве русалка.
Ходзіць яна босай.
З ёй у сне сустрэцца ты, унучка, бойся.

Зловіць —
заказыча ведзьма да паўсмерці.
Вось чаму дарослых слухаюцца дзеці?!
Колькі сцераглася!
Верыла бабулі,
А гады лічылі вёснамі зязюлі.

Як паверыць казцы,
што русалку ўбачу?
Тры разы смяюся, а чацвёрты — плачу.
А жыццё няшчадна і часцей знянацку
Цвеліцца русалкай, як малыя з цацкай.

## *Жнівень*

**1**

Разумею. Як ёсць разумею
Без напытванняў, запытанняў.
Жніўні, як ягады ў жменю,
Збіраю. Жыццё — мая тайна.
Разумею. Даўно разумею
Без прыказкі і без падказкі:
Што сяброў застаецца ўсё меней,
А сэрца дабрэе ад ласкі.
Разумею. Сама разумею
Без крыку назойлівых ісцін.
Жніўні, як ягады ў жменю,
Збіраю. Жыццё — маё выйсце...

**2**

— Перагарыць трава, браткі! —
Турботы летнія вяскоўцаў.
А дзень спякотлівы такі.
Салёны пот з палескім слоўцам...
Дымяць цыгаркі ля ракі.
Загар да прыпаркі рабочы.
— Уладкавалі луг, браткі,—
Гамоняць сны на схіле ночы.

**3**

Ах лета, лецейка... дажынкі.
На твары ліпеньскі прыпёк.
Прыжмур насмешлівай маршчынкі.
І сэрца сціснута ў камок.

І вочы, поўныя трывогі,
Бяссоння стрэсавы агонь,

І скрыжаваныя дарогі
На аднаго жыцця далонь.

Лёс — як знаходка ці як страта,
Як высі-далі ці тупік.
Былінкаю халоднай мяты
Узрост да пошуку прынік...

## *За тым лугам зеляненькім*

**Паводле народнага**

За тым лугам зеляненькім, за тым лугам...
Заспяваю песню:
Арэ Янка поле плугам, арэ плугам...
Сэрцам мары песціць.

Брала Гэля лён драбненькі, лён драбненькі.
Не кувай, зязюля!
Ой, прыгожы гэты хлопец маладзенькі:
Вышыта кашуля...

За тым лугам... васілёчкі — яго вочы
Напаілі хмелем.
Ружавее ад пагляду твар дзявочы.
Вусны анямелі.

Не гукай жа на вячэру мяне, маці:
Раніцай вярнуся.
Ой, высокая трава на сенажаці —
У траве таплюся...

* * *

Я спазнюся ў вясну. Усміхнуцца вяснушкі.
Не мае, а на твары дзяўчыны другой.
Расплятаюцца косы, як май, на падушку,
Як надзеі і мары няспраўджаных год.

Незваротна шкада. І наіўна. І горка
Было першым салодкае слова — люблю!
І стаіць той юнак на вясковым пагорку.
І вартуе гарачую шчырасць маю.

Я не ведаю, што адказаць, запытацца,
Пакланіцца ці ў сэрца, ці ў ногі яму...
На рабінавых гронках высокія —
дваццаць.
Мо так нізка і сонца заходзіць таму.

## *Чаго баішся болей?*

— Чаго баішся болей:
Падману ці тугі,
Мяшчанскага спакою,
Ці мо вяртаць даўгі,
Ці цяжкасці удачы,
Ці лёгкасці бяды?
...Ад мамінага плачу
Вядуць свой лік гады.

## *Клён*

Ведаю. Знаю. Адзін раз. Адзін.
Жыць выпадае на свеце.
Клён, што мой бацька з вайны пасадзіў,
Выламаў ліўневы вецер.
Парастак гонкі прабіўся з зямлі.
Рост свой круты набірае.
Эх, каб мы ведалі, знaлі — калі
Хто з нас каго прамінае,
Хто — упярэймы, а хто — наўздагон
Памяці плыннай імкнецца...
Ведаю. Знаю. Адроджаны клён
Мудрасцю простай завецца.

## *Дажынкі*

Пад гару, пад гóраньку дзеўчына ідзе.
Над калінай горкаю чырванее дзень.
Слёзы лье гарачыя: «Любага няма».
Холад шэптаў матчыных: «Выбрала сама
Тога чарнабрóвага, лёгкага на зман...»
За густой дубрóваю — рэдзенькі туман.

Прыгажуня-дзеўчына, смутак прыхавай.
На гары, на гóраньцы — смелая трава.
Косы свае русыя заплятай ямчэй.
Сцежкай сенакоснаю выбягай хутчэй.

Да ракі, да Прыпяці. Радасна зірні.
Да цябе здарожана едзе на кані
Нарачóны, суджаны. Статны маладзец.
— Ці не з ім, дзяўчыначка,
пойдзеш пад вянец?

* * *

Пакахала — вузлы развязала,
А чые, не магу зразумець.
Пакахала — як праўду сказала.
І пайшла цябе, любы, сустрэць.

Пакахала — як сцежку згубіла.
І ля самых вачэй не знайшла.
Пакахала, як сонца разбіла,
І па промнях, як шклінах, прайшла.

Пакахала — як папараць-кветку
На Купалле слязой паліла.
І паклікала любага ў сведкі,
Што нявернай яму не была.

Пакахала — як доўг не вярнула.
І пазычыла шчырасць другім.
Пакахала — як сем раз танула,
Ды ўтрымалася за берагі...

## *Харашуха*

**Паводле народнага**

— Харашуха мая, харашуха...
Распанее за ноч завіруха.

І за любенькім, любым, злюбелым —
Санны след галалёдзіцай смела

Павядзе у старонку — разлуку...
— Не цалуй мае белыя рукі.

Не глядзі ў мае ясныя вочы
Гэтай цёмнай завейнаю ноччу.

Будзе снег карагодны і весні.
Сто дарог абвянчаюцца з песняй.

І куванне зязюль, птушак шэрых,
Перапыніцца ліўневым шэптам...

— Ты аднойчы зірні на рамонкі,
На палын перадымлена-горкі.

Ён на вуснах нялюбых — пякельны.
І як мёд каля чарак вясельных.

Харашуха на лёс не крыўдуе.
Яна песціць яго і святкуе.

Толькі дзень, калі выпадзе іней,
У трывозе вачэй тваіх сініх.

І сустрэчы, якіх не злічыла,
Як сто рэчак цякуць за плячыма.

І абдымкі, што я адмаўляла,
Случ вясёлкамі размалявала.

І каханне, якое спазнала.
І Сусвету вялізнаму мала.

— Харашуха твая, харашуха...

## *Сустрэча*

Зноў ты са мной... так зблізку і здалёк.
Не дакарай маўклівымі вачыма.
Сустрэча, як наіўны матылёк,
Ляціць кудысьці. Сэрцу немагчыма
Паверыць, што ні ты,
                    ні я,
                         ні мы
Больш не паўторымся ў каханні
Сярод (на дзіва!) позняе зімы,
Сярод (на шчасце!) ранняга спаткання.

* * *

Адыход. Развітанне. Вяртанне.
Стук у сэрцы мацней, чым грамы.
І што ведала я пра каханне
Сярод першай студэнцкай зімы?!

Снежань быў раззлаваны і ранні.
Галалёд непрыветна звінеў.
І што ведала я пра каханне,
Калі сівер пранізваў мяне?!

Засынала ў гарачым прызнанні.
Адмаўляла пачуццяў агонь.
І што ведала я пра каханне,
Калі слёзы салілі далонь,

Калі, нібы за сто пакаранняў,
Заставацца надоўга адной?!
І што зведаю я пра каханне —
Толькі сумна кіўну галавой...

* * *

Дзе прыпынак? Спыніцеся, вёсны!
Баязлівая спешка гадоў.
Зноў на Случы
Заплёскалі вёслы.
Госці ў матчын спяшаюцца дом.

Зноў чыёсьці вяселле, застолле,
Несуцешная радасць надзей...
Зноў усё так звычайна, ды толькі
Ні адзін не паўторыцца дзень.

Ні адзін ён, рашучы і тайны,
Хочаш — нема крычы ці маўчы;
Тупне, грымне. І сціхне, як танец
Пераспелай жытнёвай начы.

Вось таму і мой сум недарэчны.
Грукат колаў, мазурскі бальшак.
Міг адзіны! Кароткі і вечны!
За табой не паспее душа...

* * *

Прашу ў жыцця,
як маці для дзяцей,
Любові бескарыслівай, жывое...
І давяраю шчырасці часцей.
І баслаўляю ў памяці былое.

Даспелы колас да жніва вядзе.
І сумаваць над нечым недарэчна...
Прашу ў жыцця для ўсіх жывых
людзей
Любові бескарыслівай і вечнай.

* * *

— Не падмані...
— Не падманю.
— Не забывай...
— Не забываю.
— Не вінаваць ні ў чым...
— Віню.
— Забудзь адзінага...
— Кахаю.

## *Юнацтва*

**1**

Пакідала вясковы дом.
Пакідала бацькоўскую хату.
Вусны грэліся аб сырадой.
І расу дапівала мята.
Гай святлеў ад світальных бяроз,
Зацвітала валошкамі поле.
Дзень дзяцінства ў аўтобусе вёз.
А юнацтва спяшалася ў Полацк.
Колькі будзе прыездаў-свят
Апасля на разводдзі вёснаў...
Блісне ў шыбы мазурскіх хат
Хусткі матчыная палоска.

**2**

Мне першых маршчын не шкада.
Яны — як пражытыя маі.
На Случы смяецца вада:
— Глыбінь ты адведала мала.

— Рака, ты ж у Прыпяць цячэш.
А Прыпяць праз Днепр і да мора...
Гарыць на маёй шчацэ —
Юнацкая чырвань — учора.

## *І маладосцю крочу за табою*

Разведзены, як сто мастоў за ноч,
Мае дарогі да цябе, хлапчына.
І буду доўга я ісці паўзбоч
Глыбокіх мар — высокіх аблачынаў,

Каб лёсу твар, без пляміны адной,
Мужнеў штодня і сустракаў маршчыны.
Каб кожнаю язычніцай-вясной
Шчаслівымі былі паўсюль жанчыны.

Таму й жыццю паклоны свае б'ю,
Адзінаму, да дрогкасці і болю.
І шчырасцю разлукі боль гаю.
І маладосцю крочу за табою.

* * *

Спяшалася дарослай стаць хутчэй
І я, вясковае дзяўчо-падлетак.
Туліла вёсны да худых плячэй.
Суніцай фарбавала губы летам...

Спяшалася дарослай стаць хутчэй...
Адшапацелы сад ківае ветла.
Курлыча лістапад сярод начэй.
І з яблынь падаюць, нібы гады, ранеты...

* * *

Гуляйце вяселлі, вяскоўцы.
Нявест-прыгажунь не злічыць.
У свата — гасцінныя слоўцы.
Прыпеўкі — да позняй начы.

— Дзяўчыначка, твар не прытойвай,
Хай лёс табе шчасце дае.
У позірку любага тонуць
Салодкія вусны твае.

## *Вучыся любіць*

Зажураны вусны. Вясёлыя жарты.
І жнівень даспелых ажын.
І гром, як падлетак няўрымслівы, ўпарта
Ляскоча:
— Вучыся любіць!

Дарогі трывожаць. Надзеі — як пастка.
Вясна за вясною бяжыць.
Замнога дакору. І мала так ласкі.
Час дражніць:
— Вучыся любіць!

## *Тры песні*

**З народнага**

*Памяці бабулі*
*Алены Іосіфайны Аколавай*

**1**

Як з-пад каменя ды з-пад белага
Сярод дзён-былін, часу смелага,
Выцякаў ручай, сын вады лясной,
Што бруілася пад зямлёй вясной.
Падрастаў. Цурчаў. Разрываў дзірван
Той сакол-ручай, сінявокі Ян.
Звонка ў засень дрэў бег разбуджана.
І сустрэў сваю рэчку суджану...

Морач хвалямі абняла ручай,
Прытулілася да струмень-пляча,
І пайшлі ўдваіх праз далы-бары,
Абвянчаныя на язмін-зары.

Вось і песня ўся... цёмнай ноч была,
Калі я ў чаўне праз віры плыла.
На вясле — вясло. Ля шчакі — шчака.
У руцэ — рука...
Ля вачэй — вада
Глыбіню вякоў ценьмі мерала.
Свайму любаму Морач верыла...
Як з-пад каменя ды з-пад белага...

**2**

Рассыпаны мак-задыяк,
Расцеш каля плоту здзічэла,
Сцябліны сутуліш, дзівак,
Але зацвітаеш так смела.

Нанізаны кожны прамень
Крышталь да крышталю... зіхотка.
І дзівіцца ў сонечны дзень
Малóда на тую знаходку.

Рассыпаны мак-задыяк,
Пялёсткаў зямная раскоша,
Скажы, заварожаны, як
Адолеў ты чырвані нóшу,
Расцеш над густой лебядой?..

Зноў полымя кветак шугае.
Казак вечаровай хадой
Малóду ў даліне шукае...
Рассыпаны мак-задыяк...

**3**

А ўсе хмары ды да пары
Перад ліўнем грозным.
Толькі нашы думкі-мары,
Мой каханы, рóзны.
  Ой, пайду я ў луг зялёны да сястры-каліны.
  І пярсцёнак твой дароны тром дарогам кіну.
  Адап'ю расы з азерца і слязе дам волю.
  Хай наслухаецца сэрца пра любоў-нядолю,
  Каб увосень ягад горкіх не сарваць нікому,
  Каб святлей, чым летам зоркі,
  быў мой шлях дадому.
А ўсе хмары ды да пары
Перад ліўнем грозным.
Толькі нашы думкі-мары,
Мой каханы, розны.
  Ой, чаму, скажы, каліна,
                                твая сумна песня.
  І каго, скажы, павінна
                                я сустрэць прадвеснем.

Прылятайце, гусі-крылы,
да рaкі Случанкі.
Там лугі вартуе мілы, нарачоны Янка.
Будзем разам голле-квецень
берагчы ад згубы.
Навальнічны будзе вецер
нам за свата, любы.

А ўсе хмары ды да пары...

* * *

Вясна! Ты зноў?!
Наіў і страх.
І нерашучасць, нечаканасць.
Ох, родная мая сястра,
Твой боль сасмяглы, нібы каня,
Так просіць лёс:
— Любіць! — Любі!
Не дагукацца да кахання...
І кружаць, кружаць галубы
У пары над маім
расстаннем...

## *Век, дажыві без вайны*

### 1

Век, дажыві без вайны.
Як ты згараеш ад стомы!
Рызыка — у адным:
Заўтрашні дзень невядомы.

Веру — не згінуць Вясне,
Гэта ёй вытканы зоры!
Век, дай паверыць і мне:
Заўтрашні дзень — без гора.

2

Згараеш, век, каметамі — трывогай.
На яблынях дзявочая смуга.
І праз вясну вядуць усе дарогі.
І спёка слоў гарачых на губах...
Май цішыню да сэрца прыгалубіў.
Яна над абеліскамі дрыжыць.
Маланкамі над навальнічным лугам
Прасвечана высока слова — ЖЫЦЬ!

* * *

Даражыце жыццём — аднойчы
Сэрца вырвецца з цішыні:
І сярод красавіцкай ночы —
Белы твар ад бальнічнай сцяны.

Здрыганецца душа ў бяссонні.
Сон прытуліш да жару грудзей...
Ох, які ты балючы сёння,
Ураджайны на стрэсы дзень!

Даражыце жыццём... у вокны
Палыхне, як пажар, святло...
І такой цішыні навокал,
Колькі помню сябе, не было.

* * *

Гавары напаслед, гавары...
Што запомню, а што і здзічэе,
На вясковай ліпнёвай зары
Падагрэюць маланкі вячэру.

Гавары напаслед, гавары...
Адбалела, даверліва, горка.
На вясковай ліпнёвай зары,
Як дзве пацеркі, скоцяцца зоркі.

Гавары напаслед, гавары...
Цішыня не дазволіць маўчання.
На вясковай ліпнёвай зары
Нас з табой калыхала каханне.

* * *

Калядны снег. Зіма. Трывога.
Ноч шчадраца. Ноч варажбы.
Зноў мерзнуць цені за парогам.
І мне павек не разлюбіць:
Ні матчын дом за паваротам,
Ні раздарожаны бальшак.
Ні ўчора. Ні цяпер. Ні потым
Не ачарсцвей на боль, душа!

## *Сталасць*

Ты дзіўны лёс: як песня на губах.
Як хітрыя маршчынкі пад вачыма,
Як крок — наперад ці ў былое — шлях,
Як гром гадоў і ціша за плячыма.

Ты дзіўны лёс... дай, сталасць, мне руку!
Зноў неба наліваецца зарою.
І я, шчаслівая, жыву, пакуль
Мая душа зраднёная з вясною.

* * *

А Вы пра мяне марыце?
Так. Я жыву пад сузор'ем Льва.
Дзіўлюся фіялкам і лотаці.
Плыву супраць плыні Гальфстрыма.
Шукаю папараць-кветку.
І рызыкую сустрэцца з Вамі...

## *Любоў — як талент*

Любоў — як талент. Ёсць альбо няма.
І ні парады ў гэтым. Ні падмогі.
І слізкай галалёдзіцай зіма
Спалохана мне кінецца пад ногі.

І злуйся. Ці не злуйся. Ўсё адно.
Ні слова, ані ўсмешка не суцешаць.
Здзіўлёная, стаю перад вясной,
Як маці перад дзіцяняткам першым.

## *У Ліны Кастэнка*

— Ліна Васільеўна... вось Вы?!.
Ірпень.
            Блізарукі мароз
Слепіцца Кіеву ў вокны...
«Паэт вырастае са слёз!

Не з тых спачувальна-горкіх...
Вам кавы, дзяўчаткі, яшчэ?..
Глядзіце, смяюцца зоркі
У Вечнасці на шчацэ...

Жыве ў Беларусі Ніна,
Па прозвішчу рэдкім Мацяш.
Я штосьці сказаць павінна
У вечар сустрэчы наш.

І хай калядуе Муза.
І вусны казыча мароз.
Раўняйцеся сэрцам на мужных.
Паэт вырастае са слёз!»

## *Не выракайся*

Зямля мая, ні клятвы, ні замовы
Не выратуюць мёртвы каласок.
— Не выракайся матчынага слова,—
Сарвецца лівень на сухі пясок.

Знямее рэха... неспакой гарачы
Прытоіцца у холадзе трывог...
— Не выракайся, доня, свайго плачу,
Калі бацькоўскі перайшла парог.

## *Ты, першае слова, адкуль?*

— Ты, першае слова, адкуль?
— Ад жытняга коласа ў полі,
Ад вёскі, дзе родны твой кут
І неразгаданая доля.

— Ты, першае слова, адкуль?
— Ад матчынай песні жытнёвай.
І колькіх на гэтым вяку
Я ўцешыла праўдай жыццёвай...

— Ты, першае слова, адкуль?
— Ад ценяў дарогі сустрэчных.
І той, хто не знае пакут,
Пытаць пра мяне будзе вечна...

## *Летуценніца*

Адмерана. Адзначана. Адпета.
І адгаворана на сто вякоў...
Яшчэ адно сустрэну сваё лета.
Вясковай летуценніцай такой.
Мо назавуць дзівачкаю сяброўкі.
Спытаюць:
І чаго яна адна?
Вішнёва-сіняй хусткай у дзве столкі
Адгарадзілася ад плётак цішыня.

## *Начлег*

Цыганка старая... Сівая каса,
Пярсцёнкі на пальцах...
Пад звон завушніцаў
Танцуе на вогнішчы.
Плача раса.
І попел прастылы крухмаліць спадніцу.
Віхурныя рухі. Раздымкі плячэй.
І рук запаволеных хітрая смеласць.
І вугаль бліскучы жаночых вачэй —
Дзяцінства і жніўнай начы анямеласць.
Я помню той табар, начлежных цыган
І конскія потныя пысы і грывы.
Густы сырадойны ля Случы туман.
І дзядзькі праклящце: «Начлег нешчаслівы».
Ён коней калгасных лічыў на грудку,
А тупат цішэў капытоў кабыліцы...
Цыганка старая вяла за руку
Украдзены поўнік пад звон завушніцаў.

* * *

Варажы, лістапад! Кліч у госці, сяло!
Плач матулі пранізліва-горкі.
Завярэдзіць душу. Забярэ у палон.
Пераплавіцца сэрца на зоркі.

Дакранешся дыханнем да ціхай зямлі,
Да кляновага жоўтага воску.
І ад фарбаў прыроды знямееш, калі
У вачах тваіх спыніцца восень...

## *Вакзал*

1

Я пакідала многае на заўтра.
Збіралася ў дарогу ані з чым.
Няўтульныя бяссонныя вакзалы
Хацелі мне хоць як дапамагчы.

Няслі мае няхітрыя пажыткі,
Загадкава ўсміхаліся ў акне.
І кожным нервам —
крывяною жылкай,—
Трывожна сэрца спачувала мне...

2

Дзень добры Вам, знаёмы мой дзівак!
Вы зноў мне нешта ўцешнае сказалі.
А я ўсё не асмелюся ніяк
Вам усміхнуцца цёпла на вакзале.

І мы садзімся кожны ў свой цягнік
І праз вагоннае глядзім акенца,
Як над зямлёй світае маладзік.
І слухаем біццё трывожных сэрцаў.

І мы яшчэ сустрэнемся ці не —
Нам не адкажа аніхто на свеце.
І лёсы два злучае ў мройным сне
Адна дарога, без канца, як вецер...

## *Ялта*

1

Будзь тайнай, любоў да зямнога.
І колькі б ні стрэла вачэй —
Пагляду вясны гэтак многа,
Што хопіць на вечнасць яшчэ.

2

Я слухала дэсантніка расказ
Пра Керчанскую абарону.
А за спіною чуўся шторм якраз.
Дражніўся белым снегам
Крым зялёны.

Крычала мора, як за семярых...
Маўчаў маяк, разбуджаны прыбоем.
І выкрадаў здарожаны мой слых:
— Па дваццаць год было нам
перад боем...

* * *

Цяпер і я сабе — суддзя.
Цяпер і я сабе — дарадца.
Саромлюся тваіх падзяк
І так свае шкадую дваццаць,

Што за адлігамі падзей,
Што за віхурамі спатканняў
Той час на твары дзе-нідзе
Мільгне маршчынкай на світанні.

І мне ніколечкі другой
Ужо не быць, не быць — згаджуся.
Палай, душы маёй агонь!
Халодных слоў пачуць баюся...

## *Місхор*

1

Салёныя хвалі. Місхораўскі шум.
Прыціхлае Чорнае мора.
Здзіўлёная ноч працінае душу:
На досвітку топяцца зоры.

Бязлюдны прычал. І зялёны маяк.
І месяц халодны да болю.
І мне не даўмецца ў бяссонні ніяк:
Што значыць высокая доля.

Бяздонных сузор'яў палон і святло.
І мроя даспелая зорак...
Няўжо гэта толькі прывідам было,
Капрызлівай тайнаю мора?!

2

Ён будзе сцішаным, прычал,
Пасля прыліву і шматлюддзя.
Дзяўчынкай да твайго пляча
Прытульвацца дарога будзе.

Ты не паверыш, што святло
Ад маякоў не пазычаюць.

Салёнай хваляю далонь
Астудзіць мора ў дзень звычайны.

Зара зайграе ў сіні рог.
І вецер пабяжыць насустрач.
І тое, што твой лёс збярог,
Табе — замест віны і суддзяў.

## *Зімовая элегія*

**1**

Я супраць адзіноты. Ліхтары
Над Свіслаччу марознай ноччу свецяць.
Пра нас, дваіх, лёс, шчыра гавары.
Як холадна сузор'ям у сусвеце.

Далёкае святло чужых планет.
А мы свае, знаёмыя да болю.
Палова адзіноты для мяне.
Другая ходзіць ценем за табою.

**2**

Зіма згарыць, як белая камета
У холадзе завейнага святла.
Ты верыш ці не верыш у прыкметы —
Яна з табой найшчыраю была:

Какетства? Гэта толькі для дзяўчынак.
Назойлівасць?!
Для спрытненькіх жанчын...
Плачу жыццю за кожны свой учынак
Праўдзівай адзінотаю начы.

## *І зайздрасці ў душы няма*

Згусцелы снег на рэдкіх сцежках.
Уподбежкі прыйшла зіма.
І так нязвыкла, так усцешна.
І зайздрасці ў душы няма.

І аніколечкі не шкода,
Што ў непрытомнасці жывой
Святкуе родная прырода,
Як немаўля, світанак свой.

## *Сэрца*

**1**

Бальнічны белы калідор.
Прыцíхні, спуджанае сэрца!
Няўжо ты, як лавіна з гор,
 Імкнеш нястрымана да смерці?

Няўжо сто зблытаных вузлоў
Развязаны ў крыві юначай?!
Пакутнае, не знаеш слоў
І б'ешся так, як быццам плачаш.

**2**

Сірэна «хуткай дапамогі».
Жыццё адзінае. Адно.
Хірурга позірк чуйны, строгі.
Палата. Золак праз акно.

Павольны пульс — мацней, надзейней.
Як мы баімся цішыні!
Стальныя нервы, дзе ж вы, дзе ж вы?
Ноч прыціскае да сцяны.

**3**

І гэты дзень як тысячы другіх,
Хваробы крык, нібы сцяна, зацяты.
І пад вачыма сінія кругі...
За горадам бальнічная палата.

— Даруйце, доктар... скідку на вясну
Зрабіце, калі ласка, я — з цярплівых.
Злосць не хаваю. Долю не кляну.
З любоўю пазіраю на шчаслівых.

Да іх прыходзіць гэтулькі сяброў:
Надзейных, выпадковых ці звычайных.
На дабрыні замешаная кроў
Бунтуе супраць суму і адчаю...

## *На крымскім беразе Радзімы*

**1**

Цана хвіліны, знішчанай ушчэнт,
Раскрышанай нікчэмнаю размовай?!
Цякуць, як час, маршчыны па шчацэ.
І тонуць абыякавыя словы.

Асцеражыся раўнадушных дзён,
Не спачувай халоднаму разліку.

Ля берага прыморскага відзён
Гары Ай-Петры цень вялікі.

Вось так і пры табе. І без цябе.
І пасля тых, каго сустрэне мора...
Не змерзні, сэрца, у жывым цяпле.
Не абкрадзі, наступны дзень, учора!

2

Два локці на стол. Сіні аркуш святла.
Ускрайчык марскога заліва.
Зайздросніцай, дружа, і я не была
Ніколі для тых, хто шчаслівы,

Хто зведаў удачу і песціць яе,
Хто любіць нялюбых — і часам
Такі раўнадушны... Навошта твае
Вусны вяртаюцца часта?!

І зноў гэты вечар. І мора. І шторм.
Далоні чакання. Сінь цішы.
І неба абдымкі. І шчылінкі штор.
І сум, нібы трэці хто лішні...

3

Я звыкла буду томікі лістаць,
Нязвыклая да спешнай адзіноты.
І класіку сур'ёзную чытаць
Прадштармавою ялцінскаю ноччу.

Я буду, мора, помніць пра цябе,
Пра нашы незваротныя сустрэчы.
І замярзаць у ліпеньскім цяпле,
Трывогай саграваціца чалавечай...

## *Разлучоная*

Разлучоная... сем раз вучоная!
Яблык выспелы — напапалам.
Плечы белыя з косамі чорнымі.
Адзінокія — Ева, Адам.

Хто заступіцца? Ты — як адступніца
Перад лёсам і перад людзьмі.
Да цяпла і да холаду тулішся
І аднекваешся слязьмі.

Рызыкоўная. Шчодрасці поўная...
Гнеў маланкавы ад цішыні.
Ноч бяздонная. Цені ад поўніка.
Апроч зорак — нікога з радні!

## *Шчасце*

Пагасцявала, шчасце... досыць?!
Другіх, капрызнае, знайшло.
Перад тваім гасцінным домам
Баюся сквапнай быць і злой.

Дакорам горкім ці замовай —
Цябе нічым не папракну.
Асірацелі тыя словы,
Што так лагодзілі вясну.

## *Памяць*

Сустрэнемся... увосень
Гаркота — на губах.
А нас далей адносіць...
У кожнага — свой шлях...

Свая ад страт знямога.
Прылёт і зноў адлёт.
Ды толькі памяць строгай
Бывае столькі год.

Рабінаю гаркоціць.
Як праўда, сцеражэ.
І хоць таго не хочаш —
Яна ўсё даражэй!

## *Час*

### 1

Маладосці авацыі
І юнацтва наіў...
Час прытоіць за працаю.
І пачуццяў парыў
Стане мудрым і з норавам
І ашчадным штодня.
Я табою адорана.
На век цэлы, вясна.

2

Сталасць і брат яе, розум,
Цябе, маладосць, раскрадуць.
Толькі б у сэрцы цвярозым
Шчырасці не патануць;
Толькі б у норы спакою
Табе не забіцца, давер,
Толькі б пачуццям без болю
Не заставацца цяпер.

## *Узрост*

1

Прыпынюся ад лёгкай хады:
Дваццаць пяць, як снапы, за спіною.
Нібы песня, спяваюць гады.
І жыццё паўнаводзіць вясною.

Вось адведана — май, салаўі.
І чаромхавыя світанні.
Разважаю: а што... а калі б
Размінулася з першым каханнем?

Вось гарачы экватар Зямлі —
Матчын край, твар жытнёвы Палесся.
Там чырвонае сонца калін.
Там зязюля завецца Алесяй...

2

Захлёбны выдых... дваццаць восем!
Падлік? Пралік? Ці пералік?
Дні — як распуджаныя восы.
Ці як жытнёвыя палі.

Да каласка даспелы колас.
І кожны дзень — як цот, няцот?!
Май перапытвае ўпаўголас:
— Лёс — ураджай ці неўмалот?

3

Багацею: два леты — і трыццаць!
Мой узрост, ты няспынны які!
За табою з паклонам спыніцца,
Цікаваць, як святкуюць гракі.

Ненатольную прагу палёту
Над табою высокай, зямля?!
Разгарачаным выдыхам з лёгкіх:
— Маладосць — я трывога твая!

4

Згаджаюся, наіўная, з адным,
Што вёсны прамільгнулі, як маланкі,
А маладзік цікаўны, малады,
Пільнуе вокны паштальёнкі Мані.

Мы з ёй сядзім на ганачку старым,
Частуемся разварыстаю бульбай...
Цыганкай на суседавым двары
Ноч сто разоў мяняе свой абутак.

— Пужаешся... што смела пражыла:
На ўсё свой час, на ўсё свае законы...
Адно, каб раўнадушнай не была,
Адно, каб не было вясне праклёну...

**5**

— Усё наперадзе яшчэ! —
Бягуткі час — перасцярогай:
— Куды ты ад сябе ўцячэш?
Узрост,— як госць перад парогам.

— Усё наперадзе яшчэ! —
Вясна ўсміхнецца хітравата.
Разлукай сэрца апячэ.
Надзеі ахалодзіць мятай.

— Усё наперадзе яшчэ!
Ды штосьці знікне ва ўчарашнім.
І выблісне папрок з вачэй:
— Быць некаханай —вось што страшна.

**6**

З калодзежа поўня нап'ецца вады.
Пільней пазірне на дасвецце.
І выдыхнуць першую спеласць сады
На трыццаць другім маім леце.

І мроіва ночы пяройдзе ў зару.
І будзе відаць у сусвеце,
Як неба святкуе Купалля пару
На трыццаць другім маім леце.

Буслянка шырокае ўзніме крыло.
Знядужыцца зморaны вецер.

І мама бяссоннем разбудзіць сяло
На трыццаць другім маім леце.

У ранак лагодны расшчодрыцца дзень.
Чые ён дарогі прыкмеціў?
Спытаюся мудрасці ў простых людзей
На трыццаць другім сваім леце.

Душой зразумею, што шчасце вязуць
Гады́ — не багі мне ў карэце.
Радку прысягну, нібы рана лязу,
На трыццаць другім сваім леце.

Прамоўлю:
— Адолець Радзіму маю
Ніхто не адважыцца ў свеце.
Трывогай цябе, маладосць, наталю
На трыццаць другім сваім леце.

* * *

Я сто дарог, мой любы, зведала.
Дайшла да мора і да гор.
Спрачалася з маной і бедамі,
Імкнула шчырасцю да зор.

Сто тысяч раз жыццё аспрэчвала.
Ішла яму наперарэз.
Маёвым і таемным вечарам
Мяне галубіў сіні бэз.

І ўсё адно ў трывозе страчанай,
І ў чалавечай стоме дня
Было слязой вясны пазначана:
Адзіны ты. І я адна.

* * *

Ад зор да позірку твайго —
Світання шлях, вятрам даверны.
Затулены ад злых нягод,
Высокі і такі бязмерны.
Мне б адступіцца, адысці.
І супраць розуму, як грому,
Змаўчаць аднойчы ў жыцці,
Пачуццяў пераволіць стому
Ад зор да позірку твайго...

* * *

Яшчэ і не кахаю, а раўную,
Трывожуся, спакойная, пры ім.
Завейным днём цяпло душы святкую.
Раднюся з недазволеным, чужым.

Наіў юнацтва... смешны і далёкі.
Нявопытнасць дзявочая жыцця.
А снег пад раніцу такі глыбокі.
І берагі крутыя пачуцця:

Разводдзем перапоўняцца вясною.
І будуць хвалі думак і надзей
Змялелай ператалаю вадою
У памяці адгуквацца радзей.

Але і ў радасці імгненнай раю,
Што, як маланка, бліснуў праз мой лёс.
Сябе ні ў чым цяпер не дакараю,
А думаю пра вечнасць усур'ёз.

* * *

Ты быў прыдуманы. О не!
Сляза не колецца, як ружа.
— Нязбыўны, ты цяпер радней,—
Я гэта вымаўляю мужна.

Спяшаўся май. Марудзіў лёс.
І непрыдуманае шчасце
Было святлей, чым гай бяроз.
І на паклон вясне і часу

Прыйшлі на стоптаны мы брук
Без боязні маўкліва-страшнай.
І выпадала з нашых рук,
Як яблык, учарашняе...

* * *

Супакоіцца пульс. Разгарачаны позірк
Адвяду ад цябе, ад дарог, мітусні.
Мой адзіны каханы, раскайвацца позна.
Але толькі, прашу, ані ў чым не віні:

За мінулае, што не збылося,
За вясну, што прагоркла, як дым.
Развітальную гэтую восень
Вецер лісцем услаў залатым.

* * *

Любы, дзень добры, праз сотню дарог
Сэрцам вітаюся ў сэрца.
Што ж ты, адзіны, сябе не збярог?
Ноч прытаілася ў сенцах.

Ёй, як і мне, яшчэ гронкі святла
Выспеліць летняя поўня...
Восень-сяброўка ў госці зайшла
І засядзелася позна.

Мне ў шлях жаночы праводзіць яе.
Гутарыць доўга і спрэчна...
Мне забываць, незабыўны, твае
Вочы хлапечыя вечна...

* * *

Час маланкава прыпужне
І адыдзе каханнем:
— Як няпрошана да мяне
Ты прыходзіш, расстанне...

— Вінаватая, толькі ў чым?
Хто рассудзіць нас, грэшных,
Адпакутуем, адмаўчым
Сваёй шчырасцю першай...

## *Тваю дарогу сцеражэ мой плач*

**1**

Зраўняліся — узросты — твой і мой.
Сем лістападаў над тваёй магілай.
Асенні лес да нітачкі намок.
Туды адна я, без цябе, хадзіла.

Чырвоны россып спелых журавін.
Імхі спляліся ў вечнае карэнне.
І воблік твой: Қаханая, жыві...
Ад гэтага сляза мая мудрэе.

**2**

Я проста нецярплівая з цярплівых.
Няўдачніца з усіх тваіх удач.
І нешчасліўка, як за ўсіх шчаслівых...
Тваю дарогу сцеражэ мой плач.

Не кідай свае позіркі праз вёсны.
Спыніся на заснежаным лядку.
І шчырасцю, і вытрымкай дарослай,
Даверлівую, не адводзь руку.

* * *

Қаханы мой. Адмоўлены. Былы.
У памяці задобраны дзявочай.
За Полацкам град выпалаў палын
І разбудзіў маланку сярод ночы.

Спалохана мільгаць ёй у акне.
І скрыжаваць святло дарог нязнаных.
Забараняць, непаслухмянай, мне —
Пра лёс дапытвацца ў матулі рана.

Сур'ёзна, прабачальна папракаць.
Зноў ушчуваць за лёгкае былое.
Але ці здолела б цябе кахаць,
Калі б усё вясновае не тое...

* * *

Без памяці, няўпрытайкі, на людзях.
Хіба размовы возьмеш на замкі?!

Кахала — і не ведала, што будзе
Любоў, глыбей за плынь крутой ракі.

Любоў, вышэй за чэрвеньскія зоркі.
Любоў, чысцей за позіркі святла.

Любоў, як прысмак палыновы горкі...
Адгасцявала... а маёй была.

* * *

Не ўберагла цябе, каханнейка,
Бяжыш наўцёкі да другіх?
Так рызыкоўна, рана-раненька,
Паўз летняй Случы берагі.

Няўжо ў душы маёй гарачлівай
Прытулку, веры не знайшло,
Што вінавата, непрадбачана
Са мною дражнішся — было.

Няўжо і я, табой пацешана,
Больш не суцешуся нічым.
Куды, каханне, так паспешліва
Сярод грымотнае начы?

* * *

Я не вяртаюся ў былыя міражы,
Што называюць незваротнай навальніцай.
— Але чаму? —
праз дзесяць год скажы,
Пра ўсе сустрэчы не магу забыцца.

Я не вяртаюся ў былыя міражы,
Што завіхурылі, нібы завеяй, памяць.
— Але чаму? —
праз дзесяць год скажы,
Яна, нібы вуголлем, сэрца паліць.

Я не вяртаюся ў былыя міражы,
Да новых дзён пракладзены дарогі.
— Але чаму? —
праз дзесяць год скажы,
Глыбей, чым акіян, вясны трывогі...

## *Воблік вясковай нявесты*

Пошукі і пераезды.
Змоўклы перон. Цягнікі.
Воблік вясковай нявесты
Выплыве ружай з ракі.

Мне з ёй павек не сустрэцца.
Рушыцца будуць масты.
Аб маладзенькае сэрца,
Любы, паранішся ты.

Восень засватае зімы.
Пад прывакзальны шумок —
Крокі твае... пах бензіну...
Выпадак ці неўзнарок?

## *Як ён пакутлівы, гонар*

— Што ж гэта я? Пачакай,
Не адмаўляй на паўслове.
І цяжкавата рука
Лёгкі трымае аловак.

— Што ж гэта ты? Праз заслон
Дзён і завейнага маю
Выдыхнеш сэрцам: «Не ён —
Лёс мой... навек не трымаю».

— Што ж гэта мы? І чаму
Двое на розных паўшар'ях?

Выпадзе, быццам без рук
Нехта з нас... дораны шалік.

— Што ж гэта? Позна зіма
Выбеліць ранішні горад.
І зразумееш сама:
Як ён пакутлівы, гонар.

* * *

Змірылася. Спакой. Свабода. Воля.
Дакор — другой? І рэўнасць для другой?
Напэўна, дражніцца са мною доля,
Пачуццяў перапальвае агонь:

Здавалася, забыты — назаўсёды!
Пракляцця аніводнага. Маўчу!
Узрост мяняецца хутчэй, чым мода.
За вернасць адзінотаю плачу...

* * *

І ўсё ж той благаслаўляю строгі міг,
Спакусны час і словы развітання,
Мне так трывожна сёння за дваіх,
За наша неразумнае каханне.

І ўсё ж разлука, мабыць, ні пры чым.
І вінаваціць маладосць так смешна.
Так рызыкоўна сэрцу ўвосень... памаўчым
Над тым былым і непаўторна-першым.

## *Страфа*

**1**

Не проста так. Не для забаў.
Не для прытоеных насмешак.
Зніякавее на губах
Страфа гарачлівага верша.

Час перастудзіць гэты боль.
Час выверыць радок таропкі.
Будзь толькі, верш, самім сабой
Ад кожнай літары да кропкі.

**2**

Ох, сястрыца, хітрыца Муза!
Тваёй вернасці — ні на грош.
Да знямоглай пякельнай мукі
Не спрачаюся з праўдай больш.

З тваёй рызыкай, гучнай музыкай
Плысці мне да жывых глыбінь.
З тваёй рэўнасцю,
                з тваёй мужнасцю
Ненавідзець і зноў любіць.

Колас жытні ля Случы матчынай
Выпрабоўваць сэрцам на смак.
Ты як чары,
                як мовы спадчына.
Быць раднёю тваёю як?!

## *Плыве човен, вады повен*

**Паводле народнага**

**1**

Плыве човен, вады повен.
Да ракі Дунаю...
— Хто каму ў каханні ровен? —
Песню запытаю.

— Ой, малóда, ружы доня,
Дзве касы ільновы,
Незгадана твая доля.
І — язычны словы.

Плыве човен, вады повен,
Тонуць вёслы ў лозах.
— Хто каму ў каханні ровен? —
Запытаю розум.

— Ой, малóда, ружы доня,
Дзве касы ільновы.
Незгадана твая доля.
І — язычны словы.

Плыве човен, вады повен.
Знікла дно клянова...
— Хто каму ў каханні ровен?
Берагі нанова

Паўтараюць:
— Ой, дзявоня,
Ой, малóда-кветка,
Тваёй долі, ружы доня,
Човен той быў сведкам...

2

З вечара да рана я чакала Яна.
Хлопца размілога, росту прымалога.
Пад высокім вязам веснавалі разам:
Вочанькам да вока, каб глядзець далёка...

З вечара да рана я чакала Яна.
Май зялёны, росны. Я ж зусім дарасла.
Ды без дай прычыны не было хлапчыны:
Ці спалохаў вецер, ці дружка прывеціў.

З вечара да рана я чакала Яна.
Зеллейка варыла, словы гаварыла:
— Прылятай, саколе, да сваёй саколы
Праз вяршыні-горы і лясныя долы...
З вечара да рана я чакала Яна.

3

А на небе, небе цёмна хмара ўстала.
На мяне, дзяўчыну, ды няслава ўспала.
Не кляні, матуля, не ганьбуйце, людзі,
Што майго вяселля ды вясной не будзе.

Варажбе не веру. Рана рута звяла.
Чараваць не ўмела — казака кахала.
Ды друга́ малода яго вішні-вочы
Даспяліла ласкай, дацямніла ночы.

Да каня гнядога той казак вяртаўся.
І вяртаўся ў памяць і ў слязу вяртаўся.
А на небе, небе цёмна хмара ўстала,
На мяне, дзяўчыну, не няслава ўспала...

4

Учора не быў ён. І сёння не быў.
А заўтра — далёка паедзе.
Дарогу да вуснаў мой любы згубіў.
Сябе ля мяне не разгледзеў.

І што хмель заручын, і сваццi ручнік,
Прыпеўкі-насмешкі, з гаркотай?!
Нібы маладзік, казачэнька той знік.
І ценем зрабіўся ля плоту.

Учора не быў ён. І сёння не быў.
Туман рассцілаўся так нізка.
Дарогу да вуснаў мой любы згубіў.
Хоць сэрцам падходзіў так блізка.

5

Не хваліся, казачэнька, кучаравым чубам
І яшчэ слаўцом-прыманкай:
тым, што буду любай.
Не табе мае дарогі упадуць пад ногі.
На дваіх, мало́д вясёлы, гэты вечар строгі.

Не прыручвай,
не прывучвай да абдымкаў-ласкаў.
Адлятай у песню-далеч, сокал, калі ласка.
Не хваліся, казачэнька, кучаравым чубам.
Я другому пад вярбою прашапчу:
«Мой любы...»

Але, ведай напаследак: за табой, казача,
Случ у Прыпяць прыцякае і ў паводку плача.
Не мялее, а глыбее, плынь з віром вянчае.
Маладосці-краснагосці бераг прыкмячае.
Не хваліся, казачэнька, кучаравым чубам.

6

Месяц узыходзіў, як млынова кола.
Светлякі пісалі на траве: «Мі-ко-ла».
Над імя — складамі,
над імя — гадамі:
Памяць, як прыслуга,
па пятах за намі.

Ясны мой сакóле, свеце мой пахмуры,
Сеялі мы вецер, а пажалі буру.
Нагаворы робяць злыя людзі, знаю.
Колькі дзён мінула — я ж мацней кахаю.

Месяц узыходзіў, як млынова кола...
Светлякі пісалі на траве: «Мі-ко-ла»...

7

Пакаціўся туман па даліне.
Прызнаваўся хлапчына дзяўчыне.
Першы раз дакранаўся да слова:
— Я кахаю! — звінела вяснова.

Ападалі пялёсткі дадолу.
Ноч вяла іх, шчаслівых, дадому.
І ля кожнай расіны-сцяжыны
Зацвітала дзве кветкі ажынаў.

Пакаціўся туман па даліне.
Спалі два галубы на галіне.
Вышывала святочную блузку.
Песня лашчыла па-беларуску.

8

— Плылі гусі, плылі гусі...
— Чалом — песням Беларусі!
— Ой, у лузе, сухалозе...
— Не жыві, век, у пагрозе.

— Ляціць галка цераз балку...
— Ведай, доня, мову змалку.
— Стаіць верба над вадою...
— Доня, будзь ва ўсім сабою.

— На гары лён чысты, белы...
— Пра любоў кажы нясмела...
— Ляцеў голуб па-над морам...
— Праўду паўтарай і зорам.

— Цякла рэчка з-пад маста...
Лёсам, доня, не прыстань...
— Зайшоў вечар за аконца.
— Не згубі святла ад сонца...

Маці доню гадавала,
Калыханку напявала...

## *Знала восень песень восем*

**Паводле народнага**

1

Каля майго церама, каля маіх весніцаў
У вясну зялёную змайстравана лесвіца.
Хто яе адолее, хто мой сум пабóрае —
Пацалункаў ласкавых на шчацэ паболее.

Грайце, грайце, гуселькі!
Карагодзьце, ножанькі!
Выбягалі песні дзве да слязы-дарожанькі:
— Маладуй, казак. Весялуй, юнак!
Вецер сее мак...
Мне з табою, шызы голубе, ды не быць ніяк.

**2**

Заракаўся мой міленькі ка мне не хадзіці.
Толькі просяць яго вусны зноў вады адпіці
З кубка бела і клянова, з новага вядзерца.
Зачакалі вочы хлопца любасць з майго сэрца.

Ой, студзі зару, калодзеж, летнюю, з расою.
Затулюся ад хлапчыны русаю касою.
Хай праходзіць-мімаходзіць
да густой травіцы.
Кубкі два яму пад ногі пералью вадзіцы.

Не дражніся гонар-словам, не бяры зароку.
Людзі бачаць —
абгавораць твае жарты збоку.
Заракаўся мой міленькі ка мне не хадзіці,
Толькі просяць яго вусны зноў вады папіці...

**3**

Ляціць са-коле да са-каліны:
— Едзь, казачэньку, краем даліны.

Ляціць га-лубе да галубіцы:
— Едзь, казачэньку, каля крыніцы.

Ляціць ця-цера да цецярэвы:
— Едзь, казачэньку, праз засень-дрэвы.

Ляціць са-рока паўз край аблока:
— Мой казачэньку, як ты далёка.

Ляціць зя-зюля, звонка ку-вае:
— Мой казачэньку горы мінае.

Ко-ціцца гал-ка чорная борам:
— Без казачэнькі сумна і зорам.

Во-ран прысядзе на кры-ло дуба:
— Мой казачэньку, дзе ж твая згуба?

Па-ва ляцела ды ў рэчку ўпала:
— Я казачэньку недакахала...

**4**

Не агонь-касцёр гарыць,
не вада ў катле кіпіць —
Сэрца маладзецкае ные, у грудзях шчыміць.
Адвяжы, казак, каня,
сядзь, малодзе, ля камля,
Смутак свой дарозе скінь,
красну дзеўчыну пакінь.

Ноч ударыць капытом:
— Не хадзі ў нязваны дом.
Месяц стане над брывом:
— Адмахніся рукавом
Ад кахання-наслання:
перша люба — не радня.
Адыдзіся, адыдзі. Рукі-ласкі развяжы.

Не агонь-касцёр гарыць.
Не вада ў катле кіпіць.
Кіньце звады гаварыць. Буду век яе любіць.

Бел-мароз зайшоў на двор
і глядзіцца ў люстра зор:
Мерзні-мерзні, чорны тхор —
на дзяўчыну нагавор.

Грымне лівень на зямлю:
— Красну дзеўчыну люблю!
Перасохнуць рэчкі тры:
— Смутак вып'юць той вятры.
І адкоціцца гара. Абвянчаецца зара...
Грайце-грайце, гуселькі, ля вясельнага двара.

5

Маладыя хлопцы, шчасця рыбалоўцы,
Як у рэчку сетку, кідаюць мне слоўцы:
— Ой, каго-кагосьці клікала ты ў госці?
Прабягу па мосце, адкажу без злосці:
— Шчука-рыба грае, сабе пару мае.
Па адным Міколе сэрца замірае.

Маладыя хлопцы, шчасця рыбалоўцы,
Як у рэчку сетку, кідаюць мне слоўцы:
— Ой, каму-камусьці збрую выбірала,
Сцежку прывячала, коніка сядлала.

Запяю наўкола пра цябе, Мікола:
— Месяц узыходзіў, як млынова кола...

6

— А тваё каханне да шлюбу прыбрана,
Сакаліна Яна.
— А тваё лятанне ды па цэлу свету,
Сокал, восьма лета:
Адчакалі вочы, адчарнелі бровы,
У вуголлі — дровы...

— Сакаліна Яна. Ехаў я туманам
З вечара да рана.
Да цябе адное, ружы веснавое,
А цяпер нас — трое?!
— Трое, любы, трое... на пасагу ж — двое:
Ёсць сваты на тое.
— Сакаліна Яна, конь згубіў падковы;
Хто з нас выпадковы?
— Ой не знаю, сокал, ой, парадзьце, людзі:
Што з каханнем будзе...
— Сакаліна Яна...

7

Вада корань мые, сэрца ў хлопца ные,
Што няма любові, што пахмуры бровы,
Што згубілі пару вачаняты кары,
Што малода знікла, як світальна знічка.

— Не хадзі, казача, па-над берагамі.
Патанула ў бродзе вернасць паміж намі.
Хмара клён пабіла, лісцейка апала.
Я цябе, хлапчына, моцна адкахала.

Не хадзі, казача, па-над ручаямі,
Як мароз траскучы паміж палазамі.
На другу далоню мая доля ўпала —
Я цябе, хлапчына, моцна адкахала.

Не хадзі, казача, па-над азярынай.
Вырасту пад ногі спелаю калінай.
Чырвань перастыне, ягада прыгоркне.
Адсмяецца вецер за крутым пагоркам.

8

Ішлі зоры. Ішлі хмары. Ішлі яны розна.
Мы з табой, казак, не ў пары,
прызнаюся позна.

А сінь-ранне вэлюм снегу прымярае стрэхам.
Колькі песень, колькі смеху паўтарае рэха.

А ў полудзень вецер-студзень
знойдзе завіруху.
Абгавораць яе людзі, як злую свякруху.

А пад вечар мароз скрыпне. Крокі запаволіць.
Напаследак гавары мне, хто каго няволіць.

А ў ноч-цемень крыкнуць цені
адгалоссем жалю.
Абмінуў казак мой церам — стрэлася чужая.

Ішлі зоры. Ішлі хмары. Ішлі яны розна.
Мы з табой, казак, не ў пары,
прызнаюся позна.

## *Шэсць гаворак для вячорак*

**З народных песенных жартаў**

**1**

Мяне маці беражэ. Чапялою сцеражэ.
— Не губляйся маладосці.
Не ўдавайся ды ў любосці.
Забароны ведаю. Нехаця абедаю.
Не кранаюся вячэры. І сняданак мой гарчэ.
І сама нібы дзічэю.

Мяне маці беражэ. Чапялою сцеражэ:
— Не губляйся маладосці.
Не ўдавайся ды ў любосці.
Вечарніц-дзяўчат гукну. Да вачэй-акон
прыльну.
І грозьбы выпушчу з рукі,
ой, як вясельца чаўнакі.
І заначую ля ракі.

Мяне маці беражэ. Чапялою сцеражэ:
— Не губляйся маладосці.
Не ўдавайся ды ў любосці.
І пра вячоркі знае. І дзе была, пытае.
Сумну песню ўспамінае. Мае жарты
не ўспрымае.
І начэй недасыпае.

2

Расці, каса, расці, каса, аж да пояса.
Слухайся, дзяўчына, матчынага голаса:
Пакуль долю не знаходзіла,
пакуль замуж не выходзіла,
Пакуль з любым не заручана,
пакуль жытцы не навучана.

Расці, каса, расці, каса, колеру аўса.
Слухайся, дзяўчына, бацькавага голаса:
Пакуль шчасце не знаходзіла,
пакуль замуж не выходзіла,
Пакуль з любым не заручана,
пакуль жытцы не навучана.

Расці, каса, расці, каса, густа, чосана.
Не хадзі, дзяўчына, адна ў росы босая:
Пакуль лёс свой не знаходзіла,
пакуль замуж не выходзіла,
Пакуль з любым не заручана,
пакуль жытцы не навучана.

Расці, каса, расці, каса, багацей, краса.
Слухайся, дзяўчына, свайго сэрца голаса:
Пакуль смутку не знаходзіла,
пакуль замуж не выходзіла,
Пакуль з любым не заручана,
пакуль жытцы не навучана.

3

Раскушу арэшак, раскушу сухенькі.
Да размоў-насмешак трапіў мой міленькі.
Б'юць крапіўна слоўкі прама ў вочы-броўкі,
Што зусім нясмелы, што такі нялоўкі.

Раскушу арэшак, раскушу другенькі,
Сяду дый на ўзмежак, дзе хадзіў міленькі.
А калі ж той вечар дый павечарэе.
А калі ж той хлопец дый паразумнее.

Раскушу арэшак, спарышок-трайнятка,
Сяду каля дзежак, дый змялю зярнятка.
Напяку гатунку з арэшкаў сухенькіх.
Ходзіць, як па струнках, любы хай, міленькі.

4

Пабіў мяне татка шоўкаваю пужкай.
Плакала тры ночкі горка над падушкай.
Маўчаком маўчала. Лён на кужаль прала.
Лепей ды, казача, я цябе не знала.
Адвучылі хлопца ад майго садочка.
Высахлі з расою любага слядочкі.

Ішлі з поля-грэчкі валы крутарогі.
Капытамі мялі — пылілі дарогі.
Каб па іх ніколі сваты не хадзілі,
Каб дачок ніколі татулькі не білі.

Жала я пшаніцу, снапоў не вязала.
На маё не выйшла — праўду не сказала
Ні табе, татуля, ні табе, матуля,
Ні табе, падманка, куванка-зязюля...

5

Цераз злыя варажэнькі любага пакіну.
Будуць людзі кідаць словы, як ссыпаць мякіну.
Сыпце, сыпце, засыпайце ды перасыпайце.
Толькі чорны мае бровы звадай не чапайце.

Нагаворы. Нагаворы. Дождж сцячэ ў разоры.
Пераміраць мяне з любым перасвацці-зоры.
Не хадзі, Антось, у ботах,
новых, на падносках.
Не заблытвайся, каханне,
ў плётках-адгалосках.

Перасуды. Перасуды. Камняў белых груды.
З чорнай пасмачкай у грыве
конь пасецца руды.
Ой, расу саб'юць на лузе спрытныя падковы.
Перасмягнуць-перамоўкнуць
з вуснаў жарты-словы.

6

Грыба горкага знайшла — мухамора.
З хлопцам-нелюбам пайшла ў лес учора.
Не такі ён, не такі, як казача.
Пасе коніка майго, віхрам скача.
Як смяюся ўволю з ім — дык ён плача.
Прападзі і згінь з вачэй ты, няўдача.
Грыба горкага знайшла — мухамора.
Ох, набралася я з ім сорам-змора.

Не кладзіся, грыб ліхі, у карзіну.
Хлопца-нелюба сама я пакіну.
Перасохлую спалю смоль-галіну.
І на мёдзе завару чар-каліну.
Грыба горкага знайшла — мухамора.
Не адвяжацца ніяк хлопец-гора.
Не такі ён, не такі, як казача.
Пасе коніка майго — віхрам скача.
Як смяюся ўволю з ім, дык ён плача.
Прападзі і згінь з вачэй ты, няўдача.

* * *

Матулін край... вясковы і мурожны,
Зязюльчыныя слёзы ў сон-траве,
На зайздрасць і паспешнасць асцярожны,
Дзе б ні была, гасціць мяне заве.

Вярнуся сталай на случанскі бераг
І гучных слоў радзіме не скажу,
Букет рамонкаў, незагойна белых,
Расе пакіну...
сяду на мяжу.

Пад цень рабіны, з чырванню высокай.
І сэрцам пераслухаю вякі.
Падхопіць голас песню: «Ясны сокал...»,
Што на дажынках завядуць жанкі.

Настане вечар з бульбаю гарачай
І сырадойным хмелем на губах.
Край беларускі, як табе аддзячыць
За тое, што ў любові светлы шлях.

## ЗМЕСТ

**Аколава В.**

A 40 За тым лугам зеляненькім: Лірыка.— Мн.: Маст. літ., 1987.— 63 с.

Лірычная гераіня вершаў Валянціны Аколавай выклікае чытача на шчырую і даверлівую размову-споведзь. На пытанні: адкуль вытокі маральнай чысціні, грамадзянскай сталасці і вернасці каханню адказваюць кранальныя радкі, за якімі стаіць праўда пачуцця.

A $\frac{4702120200-064}{M\ 302(03)-87}$ 40—87

**ББК 84 Бел 7**

***Валентина Валентиновна Аколова***

**За тем лугом зелененьким**

*Лирика*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар Л. В. Дранько-Майсюк. Мастак М. Р. Казлоў. Мастацкі рэдактар А. М. Малышава. Тэхнічны рэдактар А. Б. Барадзіна. Карэктар Т. В. Трубач.

ІБ № 2627

Здадзена ў набор 30.10.86. Падп. да друку 04.03.87. АТ 07571. Фармат 70×90$^1/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 2,34. Ум. фарб.-адб. 2,56. Ул.-выд. арк. 2,38. Тыраж 4600 экз. Зак. 3082. Цана 30 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.